ЗАХОДНЕ-БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 37 (93) 11 – 17 лістапада 1994 г. Кошт 50 рублёў

*80 працэнтаў прадстаўніц самай старажытнай прафесіі ў Летуве - гэта гастралёры.* - ст. 4.

*Гэтую сістэму псіхалагічнага аздараўленьня выкарыстоўваюць мільёны людзей.* - ст. 6.

*Рэцыдывіст сілай завёў у сваю кватэру і спрабаваў згвалтаваць вучаніцу 8-га класа.* - ст. 8.

*ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск – Варшава – Масква - Санкт-Пецярбург.*

*Пракурору Гарадзенскай вобласьці спадару Леаніду ЦЯРЭШЧАНКУ.*

*Начальніку ўправы ўнутраных спраў Гарадзенскага аблвыканкама спадару Анатолю БЕЛАШЭЎСКАМУ.*

*Старшыні Гарадзенскага выканкама абласнога Савета дэпутатаў спадару Сямёну ДОМАШУ.*

*Старшыні Гарадзенскага выканкама гарадзкога Савета дэпутатаў г.Горадні спадару Генрыху КРУПЕНКУ.*

## ЗАЯВА

1 лістапада 1994 года, напярэдадні дзяржаўнага сьвята "ДНЯ ПАМЯЦІ" - ДЗЯДОЎ, якое спакон вякоў адзначаў увесь люд Беларусі як дзень памёрлых, каля Каложскай царквы быў учынены акт вандалізму над памятным знакам "ПАГОНЯ НА ГРУНВАЛЬД", які быў пастаўлены ў гонар славян (беларусаў, палякаў, ліцьвінаў, рускіх, украінцаў, чэхаў) і малдаван, загінуўшых, але перамогшых нямецкіх крыжакоў 15 ліпеня 1410 года ў бітве пад Грунвальдам.

Варвары ламамі выламалі мемарыяльную дошку з выявай "ПАГОНІ" і скралі яе.

Мы расцэньваем гэты інцыдэнт не як "звычайны крадзёж" каляровых металаў, на што цяпер вельмі модна сьпісваць любыя акты вандалізму такога кшталту. Мы маем падставы сьцьвярджаць, што гэта прадуманая палітычная правакацыя антыдзяржаўных праімперскіх сілаў, якія зараз хочуць правіць баль на Беларусі з маўклівай згоды і абыякавасьці тых, хто мае права і абавязак падтрымліваць парадак у дзяржаве.

Гэта зьнявага беларусаў, палякаў, рускіх, украінцаў, летувісаў, якія жывуць на Гарадзеншчыне. Гэта зьнявага дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь, зьнявага над памяцьцю нашых продкаў. Гэта непавага да народа Беларусі. Такія дзеяньні - нішто іншае, як распальваньне міжнацыянальнай варожасьці.

У сувязі з вышэйадзначаным мы заяўляем рашучы пратэст супраць бяздзеяньня пракуратуры, міліцыі і іншых органаў улады, якія "не заўважылі" гэтага дзікунства.

Мы патрабуем неадкладнага ўзбуджэньня крымінальнай справы па дадзенаму факту і абавязковага прыцягненьня да адказнасьці тых нелюдзей, якія ўчынілі зьдзек над дзяржаўным сімвалам - ГЕРБАМ ПАГОНЯ, над памяцьцю беларускага народа, яго гістарычнымі і маральнымі каштоўнасьцямі.

**Старшыня Гарадзенскай гарадзкой рады, сябра Сойму БНФ "Адраджэньне", Кастусь ЖЫНЬ;**

**старшыня Саюза палякаў на Беларусі, Тадэвуш ГАВІН;**

**старшыня Гарадзенскай гарадзкой філіі партыі Беларуская Сацыял-Дэмакратычная Грамада, Міхась ПАТРЭБА;**

**старшыня Гарадзенскага гісторыка-культурнага клуба "Паходня", Віктар ВАРАНЕЦ;**

**старшыня Гарадзенскай гарадзкой рады Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, прафесар Аляксей ПЯТКЕВІЧ;**

**старшыня Гарадзенскай абласной рады Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, прафесар Павел СЬЦЯЦКО;**

**старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі Беларускага Фонду культуры, прафесар Сяргей ГАБРУСЕВІЧ;**

**старшыня праўленьня культурна-асьветніцкага фонду "Бацькаўшчына, дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, Мікола МАРКЕВІЧ;**

**старшыня Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў г.Горадні, Мікола МЕЛЬНІКАЎ.**

**2 лістапада 1994 года, г.Горадня.**



## КАСТРЫЧНІК НЕ ДАЕ СПАКОЮ

6-га лістапада прадстаўнікі ПКБ, НРБ, "Очищения" і іншых "левых" арганізацый (асобы, ў большасьці, пеньсіённага ўзросту) правялі на плошчы Леніна ў Горадні мітынг, прысьвечаны гадавіне кастрычніцкага перавароту 1917 года.

Выступы "чырвоных" не адрозьніваліся разнастайнасьцю. Па традыцыі, яны патрабавалі аднаўленьня СССР і вяртаньня дню 7 лістапада статуса дзяржаўнага сьвята, абвінавачвалі "імперыялістаў" і "здраднікаў" у развале Саюза, гаварылі пра жабрацтва жыхароў Беларусі, сумавалі па сацыялізму, заклікалі прысутных падтрымаць прадстаўнікоў "левых" арганізацый на выбарах.

Урэшце, прынялі рэзалюцыю, у якой патрабавалі аднаўленьня СССР. І разышліся.

**А.Д.**

## АСОБЫ ВАНДАЛАЎ УСТАНОЎЛЕНЫ

У мінулым нумары "Пагоня" паведамляла пра акт вандалізму, учынены на старых каталіцкіх могілках Шчучына. Намаганьнямі супрацоўнікаў міліцыі былі ўстаноўлены асобы, якія зьдзейсьнілі гэта. Імі аказаліся навучэнцы СПТВ-98 А.і Ш., абодва 1978 года нараджэньня, і Т., 1979 года нараджэньня (двое - дзеці вайскоўцаў). Узбуджана крымінальная справа па артыкулу 201 частка другая (злоснае хуліганства) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Парушальнікі закона могуць атрымаць па яму ад аднаго да пяці гадоў пазбаўленьня волі.

## НАПАЛЕОН БЫЎ БЫ НЕЗАДАВОЛЕНЫ

Напрыканцы кастрычніка ў Віцебску адбыўся гадзінны мітынг, прысьвечаны 182-й гадавіне вызваленьня горада ад напалеонаўскіх войскаў. Ініцыятарам мітынгу быў Славянскі сабор "Белая Русь". Па дадзеным МУС Беларусі, у мітынгу ўзялі ўдзел 47 чалавек, сярод якіх былі і члены Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

## «МЕЛАНЖ» ПАД ПЫТАНЬНЕМ

500 тон акісьляльніка расейскага паліва "меланж" забылі на тэрыторыі Віцебскай вобласьці выведзеныя ў Расею ракетныя войскі. Вакол выпадку разгарэўся скандал. Менавіта пад напорам грамадзкасьці "прадукт" было вырашана адправіць сьледам за гаспадарамі, нягледзячы на тое, што Міністэрства абароны Беларусі вельмі жадае збудаваць пад Бараньню прадпрыемства па перапрацоўцы акісьляльніка на азотныя ўгнаеньні.

Дарэчы, абсталяваньне для прадпрыемства без ведама эколагаў ужо завезена.

## ДЭФІЦЫТ НАЯЎНАСЬЦІ НЕ ПРАДБАЧЫЦЦА

Як заявіў старшыня праўленьня Нацбанка Беларусі С.Багданкевіч, нядаўна былі завезены з Расеі два вагоны наяўных грошай. Ён таксама паведаміў, што банк заказаў у Дзяржзнаку Расеі на першы квартал наступнага года 6,5 трыльёнаў беларускіх рублёў. Па яго словах, гэта дазволіць поўнасьцю задаволіць патрэбы рэспублікі ў наяўных грошах з улікам лістападаўскага падвышэньня мінімальнай зарплаты і забароны ў студзені на рознічны гандаль за валюту.

Па словах С.Багданкевіча, у лістападзе ў абарот будуць уведзены 20-тысячныя купюры, а ў студзені - 50- і 100-тысячныя. На банкноце ў 20000 будзе адлюстраваны будынак Нацыянальнага банка.

**СІМ.**

## ІНФЛЯЦЫЯ 10-11 ПРАЦЭНТАЎ - РЭАЛЬНА?

На прэс-канферэнцыі, якая нядаўна адбылася, кіраўнік Нацбанка С.Багданкевіч выказаў задаволенасьць эканамічнай палітыкай новага кіраўніцтва рэспублікі. "Я бачу сёньня, што Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь - гэта не кандыдат у Прэзідэнты. Я спадзяюся, што Лукашэнка канчаткова пераадолее свае перадвыбарчыя пазіцыі. Трэба стварыць эфектыўную эканоміку і на яе аснове ўзьнімаць узровень жыцьця насельніцтва", - сказаў старшыня НББ. Ён таксама заявіў, што 99 працэнтаў ідэй, прапанаваных парламенту, прыняты.

Па словах Багданкевіча, у яго "ёсьць паразуменьне з прэм'ерам". Аднак галоўны банкір таксама заявіў: "Я не задаволены адсутнасьцю у ўрада злосьці. Трэба праводзіць рэформы, не раячыся. Калі мы правядзем іх хутка, то будзе вынік. Калі зацягнем, пойдзем на саступкі, то нічога не атрымаецца". На яго думку, многае будзе залежыць ад кадраў, бо праграм і дагэтуль было шмат. Ён адзначыў, што пакуль праграма неадкладных мер выконваецца. На думку С.Багданкевіча, зьніжэньне ўзроўня інфляцыі да канца года да запланаваных 10-11 працэнтаў у месяц - рэальна.

**СІМ.**

ГЛАВНОЕ КРЕДИТНО-ЭКОНОМИЧЕСКОЕ УПРАВЛЕНИЕ

КОМПЛЕКС БАНК

С 10 ноября 1994г. УСТАНОВЛЕНЫ

ГОДОВЫЕ ПРОЦЕНТНЫЕ СТАВКИ
по "срочным векселям" для физических лиц

| Срок размещения в банк. днях | Сумма (млн. руб.) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | до 1 | от 1 до 5 | от 5 до 10 | от 10 до 30 | свыше 30 |
| 5 дней | 140 | 150 | 160 | 175 | 195 |
| 12 -//- | 155 | 165 | 175 | 190 | 210 |
| 20 -//- | 170 | 180 | 190 | 205 | 225 |
| 30 -//- | 195 | 205 | 215 | 230 | 250 |
| 45 -//- | 225 | 235 | 245 | 260 | 280 |
| 60 -//- | 240 | 250 | 260 | 280 | 300 |
| 90 -//- | 250 | 260 | 270 | 285 | 305 |
| 120 -//- | 270 | 280 | 290 | 305 | 325 |

г.Гродно, Тельмана, 3 ☎ 0152/47-29-26, 8-201-138.

Запрашаем да сталага супрацоўніцтва рэкламных агентаў, а таксама грамадзкіх распаўсюджвальнікаў.
Зьвяртацца на адрас: г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэл. 45-29-59, 45-41-83.



**ТЫ ПАДПІСАЎСЯ НА ГАЗЕТУ «ПАГОНЯ»**

*Падпіска прымаецца ва ўсіх паштовых аддзяленьнях.*

Падпісны індэкс 63124.
Кошт на месяц - 500 рублёў,
на квартал - 1500 рублёў,
на паўгодзе - 3000 рублёў.

# ЛІСТЫ

*У лістах, а іх штотыдзень прыходзіць да рэдакцыі па некалькі, аўтары дзеляцца сваімі ўражаньнямі, выказваюць думкі, уздымаюць набалелыя праблемы.*

*Па магчымасьці "Пагоня" зьмяшчае на сваіх старонках матэрыялы чытачоў. На жаль, не ўсе яны зьмястоўныя, таму і надрукаваць іх не ўяўляецца магчымым. Заранёў перапрашаем тых, хто пісаў і недачакаўся прачытаць у газеце свой артыкул. І ўсёткі без вашых інфармацый і парад "Пагоні" не быць. Пішыце нам пра цікавыя падзеі, што адбыліся ў вашым мястэчку, горадзе, вёсцы. Мы заўжды будзем рады.*

*Ніжэй друкуюцца найбольш надзённыя, на думку рэдакцыі, лісты.*

## СПАЧУВАЕМ І ПАДТРЫМЛІВАЕМ

Прачытала ў вашай газеце аб крывавых падзеях, якія адбыліся ў Горадні 5 кастрычніка, калі азвярэлы рускамоўны натоўп у чарговы раз заявіў аб сваёй агрэсіўнасьці, насільлі да беларускіх сьвятыняў, да нашай гісторыі, культуры, да ўсёй нацыі.

Прышэльцы ўсіх адценьняў пралілі кроў прафесара медінстытута А.Астроўскага, паднялі брудныя рукі на сумленных беларусаў, што вышлі бараніць нашу тысячагадовую гісторыю ад зьнявагі агрэсіўных захопнікаў.

Мы з сынам прыносім сардэчнае спачуваньне і ўдзячнасьць усім удзельнікам фронтаўскага пікета, а таксама падтрымку ў вашых патрыятычных дзеяньнях за незалежную Беларусь, за адраджэньне беларускай нацыі!

Мы выказваем рашучы гнеў і асуджэньне нашчадкам злачыннай КПБ-КПСС за зьнявагу, абразу беларускай зямлі, нашай гісторыі, беларускай нацыі! Захопнікам усіх адценьняў няма месца на Беларускай зямлі!

Дэпутаты гарвыканкама Горадні павінны выконваць свае прамыя абавязкі па вяртаньні гораду свайго гістарычнага аблічча.

У Гарадзенскім педінстытуце (цяпер універсітэт) я атрымоўвала вышэйшую адукацыю, хадзіла па вуліцах Савецкай, Розы Люксембург, плошчы Леніна і іншых інтэрнацыянальных пракамуністычных. І толькі вуліца Ажэшкі будзіла цёплыя нацыянальныя пачуцьці. Родную мову ведалі з інстытута, але ўсе прадметы чыталі нам на рускай мове.

Але, слава Богу, Беларусь заявіла аб сваёй незалежнасьці, суверэнітэту. І мы павінны скінуць з сябе хамут імперскіх насільнікаў, вярнуць сваю спадчыну, нацыянальны дух.

Вуліцам, плошчам, назвам нашых гарадоў, вёсак, у тым ліку і Горадні, неабходна вярнуць свае нацыянальныя, гістарычныя імёны. Гэта воля беларускага народа, а дэпутаты павінны выконваць менавіта волю нацыі, карэннага насельніцтва. Час камуністаў прайшоў. Усе войны на Беларусі пылалі з-за імперскай, агрэсіўнай палітыкі Расеі, якая імкнулася трымаць усе народы ў каланіяльнай залежнасьці. Таму, той крыкун, які прыпісаў сабе ролю "вызваліцеля" Горадні ў 44-ым годзе, і яму падобныя, павінны ведаць нашую гісторыю, выконваць волю беларускага народа, а не прадаўжаць далей ролю гвалтаўніка на беларускай зямлі.

Вось чаму Беларусі цяпер неабходны свае Каліноўскія. У гэтым жа нумары зьмешчаны артыкул "Мы, правыя нацыянал-рэваншысты..." - інтэрв'ю з кіраўніком Беларускай Нацыяналістычнай Арганізацыі "Правы Рэванш" Славамірам Адамовічам. Усе пункты праграмы Славаміра Адамовіча падтрымліваем, пагаджаемся. Жадаем яму ў яго сьвятых памкненьнях для Бацькаўшчыны моцнага здароўя, посьпехаў. Мы, беларусы, хто перажывае душой за нашу свабоду, заўсёды разам з нашымі патрыётамі.

Цяпер, калі на Беларусі, каб аднавіць зноў імперыю зла на беларускай зямлі, паднімаюць галовы нашчадкі злачыннай КПСС, расейскія шавіністы, беларускай нацыі неабходна яднацца вакол патрыятычных партый, такіх, якой зьяўляецца БНА "Правы Рэванш", каб адстойваць сваю незалежнасьць.

Беларусы павінны праявіць рашучасьць, цьвёрдасьць, каб жыць дастойна, як і належыць беларусам, выйсьці з тупіка, у якім мы аказаліся па віне акупацыі ўсходняга суседа. Хочацца закончыць свой ліст словамі Славаміра Адамовіча: "Мы патрабуем дысцыпліны і беларускага парадку. Мы патрабуем прыняцьця закону, які ўзяў бы пад ахову сьвяшчэннае права Беларускай Нацыі на самаразьвіцьцё на этнічнай тэрыторыі". Гэта патрабаваньне ўсяго беларускага народа, беларускай нацыі.

З вялікай павагай да ўсіх змагароў за Бацькаўшчыну!

**Н.Х.КАЛЯДА,**
**настаўніца.**

ГЛАВНОЕ КРЕДИТНО-ЭКОНОМИЧЕСКОЕ УПРАВЛЕНИЕ

КОМПЛЕКС БАНК

С 10 ноября 1994г. УСТАНОВЛЕНЫ

ГОДОВЫЕ ПРОЦЕНТНЫЕ СТАВКИ
по "срочным векселям" для предприятий и фирм

| Срок размещения в банк. днях | Сумма (млн. руб.) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 10-30 | 31-50 | 51-100 | 101-300 | свыше 300 |
| 5 дней | 170 | 180 | 200 | 215 | 225 |
| 12 -//- | 200 | 210 | 240 | 255 | 265 |
| 20 -//- | 230 | 240 | 245 | 260 | 275 |
| 30 -//- | 250 | 260 | 255 | 270 | 280 |
| 45 -//- | 260 | 270 | 265 | 280 | 290 |
| 60 -//- | 270 | 280 | 275 | 290 | 300 |
| 90 -//- | 280 | 290 | 295 | 300 | 310 |

ГОДОВЫЕ ПРОЦЕНТНЫЕ СТАВКИ по векселям "по предъявлению" для предприятий и фирм

| Срок размещения в банк. днях | Сумма (млн. руб.) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 10-30 | 31-50 | 51-100 | 101-300 | свыше 300 |
| 2-5 | 145 | 150 | 160 | 175 | 185 |
| 6-12 | 155 | 160 | 185 | 200 | 210 |
| 13-20 | 175 | 180 | 220 | 235 | 245 |
| 21-28 | 195 | 200 | 225 | 240 | 255 |
| 29-45 | 215 | 235 | 235 | 260 | 270 |
| 46-60 | 245 | 250 | 255 | 275 | 285 |
| 61-90 | 255 | 260 | 265 | 285 | 295 |

г.Гродно, Тельмана, 3 ☎ 0152/47-29-26, 8-201-138.

## «Я Б ХАЦЕЎ ПРЫНЯЦЬ УДЗЕЛ...»

Чытаю вашу газету на працягу амаль году і заўсёды быў згодны з публікацыямі, якія друкаваліся ў газеце.

Але калі я прачытаў 34 (90) нумар "Пагоні", то ўзьніклі пытаньні, але ўжо не да вас, шаноўная рэдакцыя, а да сп.А.Мальдзіса і Валдаса Банайціса (наконт "Рыма-5 у Троках" і "Глухому не скажаш, сьляпому не пакажаш...").

Дык вось, па-першае, мяне вельмі ўразіў адказ прафесара А.Мальдзіса наконт спадчыны. З першым я згодзен, што "чыста беларуская група - гэта перш за ўсё Скарына, Будны, Цяпінскі і інш..."

Але вось я не згодны наконт супольнай спадчыны. Сп.Мальдзіс гаворыць: "Статуты паўставалі, як вядома, ў патрыятычным летувіскім асяроддзі, але напісаныя старабеларускай мовай..."

Калі так, дык атрымліваецца, што Сапегі, Тышкевічы, Радзівілы - гэта "патрыятычнае летувіскае асяроддзе"? Ды й увогуле навошта пісаць на беларускай мове, можа лепш на летувіскай? І яшчэ, пры дварох тых "летувіскіх" магнатаў у XV-XVI ст.ст. панавала беларушчына. Так атрымліваецца, што Сапегі, Радзівілы - былі (па А.Мальдзісу) "летувісамі-патрыётамі". Тады адкуль пры дварох гэтых магнатаў зьявілась беларушчына, навошта яны фундавалі розныя манастыры, друкарні (Радзівілы, Будны) ды шмат чаго рабілі на беларускай ніве?

Але самае галоўнае, чаму яшчэ дасюль не было знойдзена ніводнага статуту па летувіскай мове, Адказ просты: ці гэта памылка друку, ці проста А.Мальдзіс пераблытаў два падобныя і адначасова розныя паняцьці Літва (у сэнсе - Беларусь) і Летува (якая ў той час называлася Жамудзьзю). І яшчэ было б неабходна, каб трымаць поўны адказ на пытаньні, спытаць сп.Мальдзіса, што ён меў на ўвазе, гаворачы пра "літоўскае патрыятычнае асяроддзе".

Думаю, што рэдакцыя будзе згодна са мною, што не было ніякіх "патрыятычных летувіскіх асяроддзяў" сярод складальнікаў статутаў ВКЛ, не гаворачы ўжо пра этнічныя беларускія землі, якія былі ядром ВКЛ, калі не браць Украіны, дык на ўсе 90 працэнтаў беларускай дзяржавай было ВКЛ.

Я бы хацеў прыняць удзел у парадку дыскусіі наконт словаў: ЛЕТУВА, ЛЕТУВІС і ім падобных.

Канешне, усе ведаюць, што летувіс - гэта штучныноватвор, але патрэбны нам, каб не рабіць памылак у паняцьцях ВКЛ, Літва, ліцьвіны (але, на жаль, гэтыя памылкі ўсё роўна робяцца).

Дык вось, я ня згодны з аўтарам артыкулу, таму што гэтыя паняцьці "ужываліся" ужо на пачатку стагоддзя (асабліва ў эміграцыйных колах). І, думаю, ЛЕТУВІС у нас ужо прыжыўся і няма сэнсу зьмяняць на ЛЕТУВЕЦ і ЛЕТУВАНІН, якія, на мой погляд, гучаць не лепш ЛЕТУВІСА, ды й увогуле ЛЕТУВЕЦ і ЛЕТУВАНІН - гэта спроба зьблізіць паняцьці ЛІЦЬВІН, ЛІТОВЕЦ, ЛЕТУВІС. І калі б я вырашаў лёс гэтых назоваў, то заставіў бы ЛЕТУВІС, а ЛЕТУВЕЦ І ЛЕТУВАНІН адбросіў бы, як непадыходзячыя пад нашу мову.

Навошта крушыць традыцыі? Я вельмі паважаю імкненьне пісаць (вашай рэдакцыі) тарашкевіцай, але граматычныя памылкі не надаюць вашай газеце павагі.

І яшчэ. Той жа ліст В.Банайціса не тарашкевіцай надрукаваны, а чаму?

А так, пад канец, я б пажадаў вам посьпехаў на беларускай ніве, у справе адраджэньня памяці, самасьвядомасьці і мовы ў беларускага народа.

Жыве Беларусь!

**Віктар МУХІН,**
**вучань 8 "Г" гімназіі N 1**
**г.Менска, 13 год.**

## ЯНЫ МРОЯЦЬ МІНУЎШЧЫНАЙ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя. Я працую ў АН Беларусі, кіраўніцтва якой бярэ сабе грошы, што ідуць з Нямеччыны дзеля падтрымкі навукоўцаў і навуковых праграм. Больш таго, яны не нясуць аніякай адказнасьці, цынічна кажучы, што ніякіх сродкаў не паступае. Такія адносіны - гэта непавага да навукоўцаў. Паглядзіце ў вочы тых, хто працуе пад кіраўніцтвам гэтай наменклатуры. Гэта забітыя духоўна, абыякавыя, глухія людзі.

Таму тут, у акадэміі, з лёгкасьцю гавораць ману немцам, амерыканцам. Маняць, што менавіта ўсё добра, а самі з абліччам жывёлы выпрошваюць марку ці долар у іншаземцаў.

На жаль, яны пасланыя на зямлю сьвятую-Літоўскую камуністычна-калгаснай сістэмай, ня маюць ні сваёй думкі, ні сваіх, дзяржаўных падыходаў на разьвіцьцё нашай беларускай навукі. Наадварот, іхнія падыходы такія, што з беларускай alma-mater адыходзяць вядучыя навуковыя кадры. А ім хоць бы што, абы б іх пасады заставаліся і ніхто з маладых і таленавітых навукоўцаў не пажадаў заняць іх цёплае месца. Я адзінаццаць з паловай год змагаюся з гэтай бездухоўнай, бяздарнай глыбай. Іх не прымае Эўропа, і яны сядзяць тут, як цэрберы, сьцерагуць свае месцы. Яны ў большасьці супраць рэформаў, бо рэформы - гэта іх вораг. Яны спадзяюцца, што тыя часы, калі ім за псеўданавуку даваліся прэміі і ўзнагароды, вернуцца і наноў запануюць навокал камуністычныя ідэі. Для гэтай ідэі яны і трымаюцца, топячы з ганьбай усё людзкае, усё прагрэсіўнае.

**Ул.САНДРЫГАЙЛА,**
**ст.навуковы супрацоўнік**
**АН Беларусі.**





## ЗГОДНА ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ ТРАДЫЦЫІ

Днямі, на старых польскіх могілках Горадні адбылося перазахаваньне рэшткаў жаўнераў Войска Польскага. Пахаваньне, якое адбылося больш за 55 гадоў таму, было знойдзена ў 1991 годзе падчас раскопак катлавана пад будаўніцтва. Камісія, якая была створана пры кастрычніцкім райвыканкаме высьветліла, што ў невядомай магіле пахавана болей за 90 жаўнераў. Таксама камісія вызначыла, што сярод пахаваных былі як каталікі, так і праваслаўныя. Па сабраных апавядах старажылаў узьнікла некалькі версіяў гісторыі іх гібелі. Найбольш праўдападобна гучала версія аб тым, што жаўнераў Войска Польскага, якія вялі абарону на поўдзень ад Горадні, абдажыўшы з усіх бакоў, пасеклі кавалерысты Чырвонай Арміі.

Больш як тры гады рэшткі праляжалі ў скляпеньнях Бернардынскага касьцёла горада. Увесь гэты час з боку каталіцкай дыяспары Гарадзеншчыны рабіліся захады да ўладаў правесьці перазахаваньне рэшткаў жаўнераў згодна хрысьціянскай традыцыі. Найбольш высілкаў у гэтым накірунку зьдзейсьніў актывіст Саюзу Палякаў Беларусі Рышард Кацынель. Дзякуючы яго намаганьням і было атрымана дазваленьне на перазахаваньне.

Перазахаваньне адбылося ў дзень дзяржаўнага сьвята Беларусі "Дзяды". Яно распачалося сьвятой імшой па загінуўшых у Бернардынскім касьцёле Горадні. Затым урачыстасьці перанесьліся на вайсковыя могілкі, дзе яшчэ адно набажэнства адслужыў біскуп гарадзенскай каталіцкай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч. Затым, адпаведна з хрысьціянскімі традыцыямі, труны, упрыгожаныя дзяржаўнымі штандарамі Беларусі і Польшчы, былі перададзены зямлі на польскіх могілках. На пахаваньне загінуўшых жаўнераў войска польскага прыйшло некалькі тысяч гарадзенцаў. Чынны ўдзел у жалобных мерапрыемствах узялі сябры Гарадзенскай рады БНФ "Адраджэньне", гісторыка-культурнага клуба "Паходня", Грамадзка-палітычнага аб'яднаньня імя К.Каліноўскага.

З прамовай у гонар палеглых выступілі пасол Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь Э.Смулек, прадстаўнік польскага ўраду А.Пшэвязнік, ад Саюза Палякаў Беларусі - намесьнік Старшыні праўленьня Р. Кацынель.

Прысутнічаў на жалобных урачыстасьцях консул Рэспублікі Польшча ў Горадні Мар'януш Машкевіч.

**Г.АСТРОЎСКІ.**
**Фатаграфаваў А.УЛАДАСЕВІЧ.**

# ЛЯСЫ, БУНКЕРЫ, ПАРТЫЗАНЫ

**(Заканчэньне. Пачатак у N 36. Друкуецца на мове арыгінала).**

Вітушка, сын вучыцеля й былы афіцэр Чырвонае Арміі,* прыняў мяне ў аднэй скромнай "Вільлі" ў прыгожым месцы. Прывёў мяне да яго ад'ютант. Сам Вітушка сядзеў за пісьмовым сталом, як дырэктар нейкага прадпрыемства, бязь ніякіх таямніцаў, якімі звычайна ўпрыгожваюць іншых партызанаў за зялезнай заслонай. Прывітаўшыся, ён сказаў:

- Я вельмі рады, што вы трапілі да нас. Назначаем вас кур'ерам і сувязным. Думаю, што на нуду ня будзе часу. Ён кіўнуў галавою і я мог ісьці.

Вось гэта быў Вітушка, за галаву якога Саветы вызначылі вялізарныя прэміі. Адвага, з якой вёў ён свае справы, імпанавала мне.

Шэф меў слушнасьць, цьвердзячы, што на брак працы наракаць ня буду. Гэта было праўдай.

Будучы кур'ерам, я змог глыбей заглянуць у жыцьцё г.зв. "нялегальных" і быў змушаны зьмяніць, дый даволі грунтоўна, мае даўнейшыя погляды.

Самая думка, што партызаны сядзяць у тайных закутках і ў вельмі цяжкіх абставінах, аказалася зусім хвальшываю. Толькі тыя, якія шукала палітычная паліцыя ці якіх чакала служба ў Чырвонай Арміі, хаваліся ў лясох і балотах. Іншыя ж, як мірныя жыхары, займаліся працай, некаторыя мелі нават вядучыя становішчы.

Гэтая сытуацыя нават і сёньня не зьмянілася. Бальшыня партызанаў вядзе двайное жыцьцё. Раз на год яны праходзяць вайсковую навуку. Бяруць водпускі ў сваіх установах, або пішуцца хворымі, каб выкраіць сабе тыдзень ці два й пазнаёміцца з новай зброяй, выбуховымі матар'яламі, спосабамі камунікацыі.

У добра замаскаваных лягерох, якія знаходзіліся галоўным чынам сярод непраходных балот, была сабраная вялізарная колькасьць зброі, амуніцыі, запасных частак, вопраткі й харчоў. Цэлая акруга была моцна замінаваная. Папаўнялася гэта нападамі на дзяржаўныя крамы, амуніцыйныя склады Чырвонай Арміі й нападамі на цягнікі.

Адна часьць забясьпечаньня - перадусім мадэрная радыястанцыя была закупленая за межамі і ў засакрэчаным вагоне перапраўленая праз межы. Маё першае спатканьне з "партызанамі", якія забясьпечвалі транспарты й кантрабанду, было апісана раней.

**УДАВАНЫЯ НАПАДЫ**

Вартаўнікам лягераў амуніцыі рэгулярна плаціў "Нацыянальна-Вызвольны Камітэт". Роўна плацілі жаўнерам і афіцэрам і яны час ад часу атрымлівалі урлёп**, зрузумела із хвальшывымі дакумантамі. Аплата была даволі высокая, таму і "партызанам часовым" (рэзэрвістам) выплачвалася выраўнаньне зарплаты.

Мясцовыя жыхары памагалі нелегальным па сваіх сілах. Наложаную савецкімі "вызвольнікамі" норму выпаўніць было немагчыма ды пры гэтым трэба дапамагчы яшчэ партызанам. Таму людзі кідаліся на розныя "хітрыкі". Да такіх належаў удаваны напад. Сябры "Чорнага Ката" купляля нейкую колькасьць збожжа па рэгулярных цэнах, а ночу арганізавалі напад, падчас якога забіралі раней заплачанае збожжа. У гэтым выпадку грамада не патрабавала здаваць на ссыпку й гэтым збывацца з сябе падазрэньне ў сабатажы.

**НАВЕДВАЮЦЬ ЗЕМЛЯКІ**

На працягу колькіх тыдняў займаўся я радыёслужбай. Мадэрны апарат стаяў у маім скромным пакоі. Сюды вечарам заглядалі да мяне землякі. Часткова былі гэта афіцэры былшай нямецкай арміі, якія нейкім сьляпым прыпадкам, або гульнёй лёсу папалі ў шэрагі партызанаў. Некаторыя з іх вайной страцілі жонак і дзяцей, іншыя зноў таму, што Бацькаўшчына іх трапіла пад польскую акупацыю, а некаторыя былі шукальнікамі прыгодаў ды проста мелі нахіл да барацьбы; гэта быў асаблівы род "ляндкнэхтаў", якія думалі, што маральна мусяць дапамагаць у барацьбе з бальшавізмам.

Аднаго вечару мы сядзелі й разважалі тэорыі й прынцыпы партызанскага змаганьня: эльбінгскі марак, зьнішчальнік якога недзе ў Балтыцкім моры наскочыў на міну, далей танкіст з Сілезіі ну й я. Пачалося з таго, што я выказаў сумлевы ў посьпехі партызанскіх змаганьняў, а Сілезец запратэставаў. - Ты выходзіш з хвальшывае пазыцыі - казаў ён. - Мы дзейнічаем ня сілай, адно толькі фактам, што мы ёсьць. На нашым баку ініцыятыва, рухлівасьць і неспадзеўка. Гэта ўсё ад нас залежыць. Кажнае разьвідленьне, кажны лясок, кажны роў, усё можна выкарыстаць на засадку. Шанцы партызанскага змаганьня ляжаць не ў мілітарным, а толькі ў маральным спосабе. Мы можам паўгоду сядзець ціха, але саветы мусяць быць заўсёды напагатове таму, што мы дзесьці пакажамся. Натуральна, у вадкрытым полі мы ня зможам абараніцца, але гэта мажлівасьць змушае саветы быць заўсёды напагатове. Яны думаюць, што калі ні сёньня дык заўтра мы зможам пайсьці на іх гарматамі ці танкамі.

Ён разгарачыўся ў сваіх высновах, кажучы: - Я маю сваю тэорыю трох: лясы, воды, пустыры. Гэта тры фактары, у якіх наша вайна мае надзею на перамогу.

- Лясы й пустыры, з гэтым згаджаюся, - сказаў я, - але пры чым тут воды? Мне здаецца, што ты крыху задалёка заскочыў.

**АД АРМІНА ДА ЛЯЎРЭНСА**

Марак заківаў галавою, кажучы: - Гэта праўда, што падводная лодка розьніцца ад партызанскай. Яна змушае частку караблёў пад сільнай аховай рухацца групай, згодна з правіламі сыстэмы канвою, даглядаць тыя адзінкі, што ня маюць вялікае хуткасьці й прытарнавацца да агулу таму, што падводныя лодкі нападаюць тады, калі яны змогуць. Гэта малая вайна знаходзіцца ў межах магчымасьці. Ён закурыў. Тэорыя трох ня ёсьць узятай з паветра, а гэта клясычны прыклад, пустынная тактыка палкоўніка Ляўрэнса з першай сусьветнай вайны. Арганізаваўшы арабскае паўстаньне, ён тымсамым падрыхтаваў мадэрную партызанскую тактыку. Наапошку Армінус, гэрманскі князь, які разьбіў Варуса ў Тэўтабурскім лесе, гэтак залажыў першыя паняцьці пра партызанскую вайну.

Я зірнуў на гадзіньнік, уключыў прыёмнік на адбор і чакаў. Праз некалькі хвілін потым застукалі тры пары мужскіх ботаў па сьцежцы ў даліну. - Што такое? - спытаў Сілезец. - Пачакай, - адказаў я, - не заўсёды трэба быць цікавым.

Спаць ня было часу.

З прыцёмнымі ліхтарамі ківаўся у цёмнай ночы грузавік. Восем "нялегальных" з суседніх калгасаў ускочылі да нас і разьмясьціліся на вузкіх лаўках. Відаць, паведамілі іх раней. Выглядала, што шофэр добра ведаў дарогу, бо ні разу не затрымаўся. Спыніліся на адной паляне. Чалавек з перавешаным на плячо аўтаматам адчыніў заднюю кляпу.

- Хутчэй! - сказаў. - Шэф ужо чакае.

**ЖЫВЁЛА З МЭКЛЕНБУРГУ Ў КРЫМ**

Ён вёў нас вузкай лясной сьцежкай. Было так цёмна, што ледзь відаць быў чалавек, што йшоў перад табой. Лаючыся, за мной ішоў Сілезец. Яму галіна стукнула па твары. Пакрысе вочы прызвычаіліся да цемры. Вось на паляне стаяла група мужчын. Мы замальдаваліся каманьдзеру. Ён быў вельмі малады й думаю, што я яго колькі тыдняў назад бачыў як ад'ютанта Вітушкі.

- Слухайце, - сказаў ён, - частка з вас яшчэ ня ведае ў чым справа. У працягу ночы мы чакаем на савецкі транспарт, што мае даставіць быдла з Мэкленбургу ў Крым. Ён ужо авізаваны яшчэ ўчора. Некалькі групаў ляжаць ужо напагатове пару дзён. Мы сьцягнулі падмацаваньне, каб як найхутчэй справіцца з абозам быдла. Цягнік мае быць тут за дзьве гадзіны. Груповыя пакажуць, што каму рабіць. Гэта было б усё.

Людзі, не гаворачы ні слова, пачалі разыходзіцца. Мяне прыдзялілі да групы, што мела заданьне ахоўваць чыгунку. Мы мусілі прыпусьціць цягнік, каб потым унемажлівіць савецкай ахове ўцёкі.

**ВУХА НА РЭЙЦЫ**

Мы заляглі на сваіх пазыцыях, калі вярнуўся да нас Сілезец, кажучы: - Я агледзеў месца падрыву, ну... калі гэта ні ўзьляціць!

Чакалі. Час ад часу пазіраў я на гадзіньнік і мінуты валакліся вельмі павалі. Пачало сьвітаць. Ужо можна было разгледзіць абапал чыгункі дрэвы. Я падняў каўнер плашча й падыйшоў да каляі, каб прылажыць вуха да рэйкі, але нічога ня было чуваць. Калі я вярнуўся, дык Сілезец запытаўся: - Нэрвуешся? Альбо, мусіць, раней зашмат раманоў Карла Маркса чытаў?

Раптам пачулі мы голас: - Падрыхтавацца!

Зірнуўшы ўздоўж шляху, пабачылі воддаль сьвятло, што пранізвала раньнюю імглу, пачулі грукат колаў, можна было б падумаць, што цягнік затрымаўся, гэтак паволі ён набліжаўся. Вось ужо добра відаць яго ліхтары і ён прасоп каля нас. Раўнамерна стукалі па рэйках колы, мы яшчэ больш прыляглі да зямлі...але нічога не было. Раптам грымнуў узрыў, крыкі і, як мне здалося, грукат кулямёту МТ 42. Тады мы ўскочылі й разлучыліся направа й налева ад шляху. Налева ад нас пачулі тры невялікія ўзрывы. Ручныя гранаты. Двух чалавек у савецкіх муньдзірах беглі па шляху ў нашым кірунку. Калі нашы кулі засьвісталі ім ля вушэй, яны завярнулі й вялікімі крокамі падаліся да цягніка.

Перад намі яшчэ стралялі, але нашая група змоўкла й запанавала ціша, толькі перапалоханая жывёла раўла ў вагонах. Мы йшлі ўздоўж палатна, ахоўваючы абодва бакі. Нашая асьцярожнасьць была лішняй. Калі падыйшлі да цягніка, групы мужчын адчынялі вагоны й выладоўвалі жывёлу.

**У ПАЛОН НЕ БЯРУЦЬ**

Маладая дзяўчына ў высокіх ботах, расшпіленым плашчы й цёмназялёнай спартовай кашулі перавязала раненаму партызану руку. Тонкі касмыль валасоў упаў ёй на твар і энэргічным кіўком галавы яна адкінула яго назад.

- Ці маеш ты перавязачную пачку? - спытала мяне.

Я даў ёй, што патрабавала й бель бінта зазьзяла на пакрытай глінай цёмнай зелені муньдзіру. Дзяўчына спрытна завязала пятлю. Калі ранены адыйшоў, папрасіла ў мяне цыгарэту.

- Ты ў нас новы? - спытала.

Я кіўнуў галавой у адказ і зірнуў на забітых саветчыкаў, што ляжалі некалькі крокаў ад чыгункі.

- Чаму вы не бярэце палонных? - спытаў я.

Яны зьдзіўлена зірнулі на мяне.

- Думаеш, што калі хто з нас пападзе ў іхныя рукі, дык яны нас пашкадуюць? Мы не даём спуску, але й ня просім яго. Я, праўда, хоць жанчына, але ўжо прывыкла да гэтага.

- Ты Немец? - спытала па хвіліне.

Я кіўнуў галавой. Кароткая ўсьмешка разуменьня, быццам выбачаючыся за такое пытаньне, мільганула па твары. Пазьней я даведаўся, што гэта была Аляксандра. Яе бацьку саветы расстралялі як "трацкіста". Адна з першых зьявілася яна ў рады антыбальшавікоў. Адзін беларус, што запазнаў мяне з яе лёсам, казаў, што яна вельмі адважная. Ён толькі раз бачыў яе сьлёзы, калі маладога студэнта злавілі пры раскідваньні афішак і пасьля ліквідавалі. Ён, пэўне, быў яе нарэчаным.

**МЫ РОБІМ ЦЭЛУЮ РАБОТУ**

Таму, што хапала мужчын для разладваньня статку з вагонаў, нас выслалі некалькі кілямэтраў наперад, напэўна, каб забясьпечыць у працягу наступных гадзін далейшую працу. Можна было быць пэўным, што ніякая небясьпека не пагражае. Нават калі б хто з праваднікоў цягніка ўратаваўся, дык трэба было найменш паўдня, каб да наступнага гарнізону дайсьці й трывогу падняць. Было ясна, што спосаб нападу быў добра прадуманы й выкананы.

Адклікалі нас яшчэ перад абедам. Партызаны зрабілі цэлую работу, заваладзілі статак у раней нарыхтаваныя грузавікі. Гэта ўсё пайшло на папаўненьне запасаў у розных тайных лягерох. Пазьней я даведаўся, што ў гэтай акцыі брала ўдзел больш як дзьвесьце "нялегальных". Уся суправодная каманда загінула. З боку нападаючых было некалькі параненых.

**ПРА "ЗЯЛЕЗНАГА ВАЎКА" Й ІНШЫХ**

Наступныя дні прынясьлі цэлую кучу цікавае працы. Камандаваньне "Чорнага Ката" было ўпэўнена, што пасьля нападу на цягнік нахлыне новая хваля прасьледаваньняў. Але не прадбачвалі адкрытае барацьбы із "істрабіцелямі". Гэта была спэцыяльная група, што займалася вынішчэньнем партызанаў ды масавымі арыштамі МВД. Было зразумела, што трэба было мець цясьнейшае супрацоўніцтва з іншымі партызанскімі групамі. Шматлікія кур'ерскія паездкі зьвялі мяне пры гэтым з балтыцкімі групамі, як "Зялезны Воўк" (эстонскія партызаны - С.Д.), "Лясныя Браты" (летувіскія партызаны - С.Д.), дзе я даведаўся аж да драбніцаў пра сілу й дзейнасьць гэтых групаў.

Лік "барацьбітоў" у балтыцкіх краінах, па асьцярожнаму падліку, даходзіў да 20 000. Па новых даведках, між іх было прыблізна 1500 афіцэраў і жаўнераў былшае нямецкае арміі. Гэтыя людзі паходзілі з Усходняе Прусіі й большая іх часьць зусім ня была ў савецкім палоне, а некаторыя з лягероў паўцякалі.

**ЗАЎВАГА РЭДАКЦЫІ "ЗВАЖАЙ": Аўтар гэтых успамінаў быў на службе"Чорнага Ката" чатыры месяцы, пасьля службы у балтыцкіх, украінскіх і польскіх рухах супрацыву. Вартасьць яго-ных далейшых успамінаў мае вялікую цану для нашых суседзяў, а меншую для нас. І таму тут канчаем друк успамінаў Гасмюлера тым месцам, у каторым ён гаворыць пра нашых:**

**Вялікае прыкрыцьцё й падтрымку балтыцкім аддзелам давала арганізацыя "Чорнага Ката", да якой я тады належаў.**

**Гэта арганізацыя паўстала ў 1944 годзе й мае прыблізна да 50 000 сяброў. У гэны лік уключаны таксама сымпатыкі, г.зн. тыя, што падтрымоўваюць яе.**

---

* Міхась Вітушка (1907-1956?), генэрал, арганізатар і кіраўнік Беларускай Вызвольнай Арміі. У 1920-30 гадох вучыўся ў Вільні і Празе. Жыў і працаваў у Варшаве. Падчас 2-ое сусьветнае вайны - афіцэр Беларускае Краёвае Абароны, каманьдзер экспэдыцыйнай групы спэцыяльнага батальёну "Далвіц", сябра ЦК Беларускай Незалежніцкай Партыі. Пасьля спыненьня партызанскай барацьбы, скрываўся на канспірацыйных кватэрах у Вільні й Менску. Арыштаваны і расстраляны бальшавікамі (магчыма, гэта адбылося ў Маскве). У Чырвонай Арміі ген. Вітушка ніколі не служыў, Д.Гасмюлер памыліўся. - С.Д.

** Ад нямецкага "urlaub" - водпуск - С.Д.

# ДЫЯНЕТЫКА - ГЭТА АДМЫСЛОВАЯ ТЭХНАЛОГІЯ РОЗУМУ

**Напрыканцы 1993 года Міністэрствам юстыцыі зарэгістравана грамадзянская арганізацыя - Беларускі цэнтр дыянетыкі.**

**Сёньня газета "Пагоня" прапануе аглядны матэрыял А.Дынікава па асновам гэтай навукі.**

Адно знаёмства з дыянетыкай дае надзею, што ўсё негатыўнае, якое калі-кольвечы было ў вашым жыцьці і паклаўшае на яго сваё адлюстраваньне, можа быць зьнішчана з вашай памяці ці хоць не прыгнятаць болей.

Ёсьць меркаваньне, што дыянетыка дапаможа нам быць шчасьлівымі, стварыць варункі поўнасьцю рэалізаваць сябе і пражыць паўнакроўнае жыцьцё.

Як жа можа дыянетыка ўзьдзейнічаць на чалавека?

Па словах яе стваральніка, амерыканскага навукоўца Лафайета Рон Хабарда, дыянетыка - гэта прыгоды. Гэта дасьледваньне "тэра інкогніта" чалавечага розуму. Кніжка "Дыянетыка", аўтарам якой зьяўляецца навуковец - гэта сучасная навука духоўнага здароўя. Яна зьяўляецца міжнародным бестсэлерам і перакладзена на 22 мовы сьвету, агульным накладам звыш 15 мільёнаў.

У свой час вядомы матэматык Альберт Энштэйн зрабіў сенсацыйную заяву: "Мы выкарыстоўваем толькі 10 працэнтаў здольнасьцяў нашага розуму." Аднак Энштэйн нічога не здолеў сказаць, як задзейнічаць астатнія 90 працэнтаў. Лафайет Рон Хабард у сваіх навуковых досьледах не толькі пацьвердзіў выслоўе вялікага матэматыка, але і распрацаваў сістэму прыёмаў, з дапамогай якіх можна абудзіць і задзейнічаць да працы тую частку чалавечага мозгу, што знаходзіцца ў пасіве.

Лафайет Рон Хабард найперш быў вядомы як пісьменьнік прыгодніцкага і навукова-фантастычнага жанру. Яго працы ў галіне адукацыі, мастацтва, дзетаксіфікацыі, радыяцыі, кіраваньня бізнесам разышліся па ўсяму сьвету мільённымі накладамі. Хабард вывучаў інжынерную і атамную фізіку, менавіта тады ён распачаў свае першыя вопыты ў вобласьці структуры і функцыянальнай дзейнасьці чалавечай памяці. Дзякуючы назіраньням, зробленым ім падчас сусьветных падарожжаў, вопыту, прыдбанаму ў перыяд Другой сусьветнай вайны і іншым досьледам, выданая 9 траўня 1950 года "Дыянетыка" адразу трапіла ў сьпіс самых папулярных кніжак газеты "Нью-Йорк Таймс".

Да канца 1950 года ў ЗША налічвалася каля 750 гуртоў, якія практыкавалі "навуку духоўнага здароўя" Хабарда. Зараз гэтую сістэму псіхалагічнага аздараўленьня выкарыстоўваюць мільёны людзей. Дыянетыка, як методыка духоўнага адпачынку прымяняецца на сусьветна-вядомых прадпрыемствах "Джэнерал мотарс", "Вольва" і многіх іншых.

У чым сакрэт папулярнасьці гэтага аздараўленьчага метада?

Яго сіла ў тым, што па прастаце і эфектыўнасьці ён не мае сябе роўных. Чалавек, даскакала вывучыўшы дыянетыку, можа не толькі сам быць вясёлым, задаволеным жыцьцём аптымістам, але здолее дапамагчы ў гэтай справе свайму бліжняму.

Як засьведчыў Хабард, усе нашыя праблемы, беды хаваюцца ў нашай памяці, якая запісвае ўсю інфармацыю, што даходзіць да нас ад акаляючага асяроддзя.

Адыйшоўшы з часам да скрытых куткоў памяці, інфармацыя незалежна ад жаданьня чалавека ўзьдзейнічае на яго духоўнае становішча і настрой. А так як інфармацыя бывае станоўчая і адмоўная, то і ўзьдзеяньне на чалавека адпаведнае.

Сістэма Хабарда дзякуючы наяўнасьці спецыяльных прыёмаў дазваляе выняць адмоўную інфармацыю з нашага банку памяці, нейтралізаваць яе, пасьля чаго яна робіцца бязшкоднай. Выканаўшы такія захады, чалавек набірае духоўнага здароўя. У яго паляпшаецца памяць, узвышаецца інтэлект, зьніжаецца схільнасьць да хваробаў, стрэсаў.

Вось што нам распавядае на гэта ангельская "Энцыклапедыя натуральнай медыцыны": "З дапамогай дыянетыкі, самагіпнозу ці іншых фізічных сродкаў чалавек сам можа знайсьці першапрычыну сваіх праблемаў."

Пры рэгулярных занятках дыянетыкай жыцьцё чалавека, зацiснутае стрэсамі, якое ён бачыць будзённым і шэрым, становіцца яскравым, насычаным і зьмястоўным. Жыцьцё такім людзям уяўляецца цудоўным, захапляючым падарожжам.

Тым, каго зацікавіць дыянетыка, нагадваем кантактны тэлефон - (0172) 55-62-94.


# ШАЛЬЧЯ

**Газета Ўсходняй Летувы, выдаецца на трох мовах.**

Выходзіць два разы на тыдзень: аўторак і пятніца.
Вы яе атрымаеце ўжо праз дзень.

У "ШАЛЬЧЫ" Вы знойдзеце навіны, парады і разнастайныя весткі пра жыцьцё Летувы.
Замовіць газету можна ў любым паштовым аддзяленьні Гарадзеншчыны.

Падпісная цана на 1-е паўгоддзе 1995 года:
**на 1 месяц - 320 бел/рублёў**
**на 2 месяцы - 960 бел/рублёў**
**на 3 месяцы - 1920 бел/рублёў**
Індэкс летувіскага выданьня - 67316, рускага - 67317, польскага - 67318.
*Прадпрыемства па распаўсюджваньню друку "Вея", г.Вільня, вул.Гінею, 4-317.*


# ІНФАКАЛАЖ

**ШМАТРАЗОВЫ ТРУС**

У лабараторыі дасьледчага ўніверсітэту японскага горада Кэйо вынайдзены гатунак шматразовага падвопытнага труса для абучэньня на ім медперсаналу. Тэхнічнаскладаны трус японскія вынаходнікаў забясьпечаны сваёй аўтаномнай крывяной сістэмай і мочапалавымі ворганамі. З вуха труса можна браць кроў на аналіз, а з іншых частак цела - разнастайную вадкасьць для патрэбных навуковых досьледаў.

Адзін экземпляр труса каштуе 680 доляраў.

* * *

У Кітаі выведзены новы гатунак трускавак. Па памерах кожная ягада пераўзыходзіць курынае яйка.

Працы па селекцыі вяліся дзевяць год. Сёлета новым гатункам трускавак у Кітае плануюць засадзіць плантацыі ў некалькі тысяч гектараў. Да гэтага Кітай імпартаваў гэтыя салодкія ягады з Японіі.

* * *

"Зоркі" Галівуда Том Хэнкс, Кевін Вейкан і Рон Хаўэрд, перш чым распачаць здымкі фільма пра палёт у 1970 годзе на Месяц карабля "Апалон-13",сур'ёзна пачалі вывучаць космас.

Можа, сапраўды наведаюць Месяц.

**"ЗОРКАВЫЯ ВОЙНЫ": ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

Брытанскі акцёр Кенэт Бранок у чарговай серыі "Зоркавых войнаў" здымецца ў ролі маладога воіна, якога завуць Обі Ван Кенабі.

## ПОЛЬСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 14.11

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Музычная праграма 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Мы і нашыя дзеці. 10 55 Ангельская мова для дзяцей. 11 05 "Дінастыя Колбі". Серыял вытв. ЗША. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Прыемнае з карысным. 12 30 Свет людзей. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнес. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма 13 40 Школы ў Еўропе. 14 05 Страціць альбо знайсці. 14 25 Дакументальны серыял. 14 55 I цела і дух. 15 10 З жыцця грыбоў. 15 25 Рэпартаж. 15 35 Ідзе новае. 15 45 Выбар будучыні. 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычны часопіс. 16 30 Альтэрнатывы. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Праграма для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Публіцыстычная праграма. 19 10 Серыял вытв. Англіі. 19 40 Юбілейная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 15 Тэлетэатр. 22 25 Мініяцюры. 22 35 Пульс дня. 22 50 Тыдзень прэзідэнта. 23 05 Тэлечасопіс. 23 30 Рэпартаж. 00 00 Навіны. 00 20 "Вялікія планы". Фільм вытв. Францыі. 02 00 Забаўляльная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 30 Ангельская мова. 08 40 Студыя другой праграмы. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Прыгоды пана Міхала". Серыял вытв. Польшчы. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны фільм. 11 00 Мультфільм. 11 30 Тэлетурнір. 12 00 Канцэрт. 12 40 Маі кнігі. 13 00 Брытанскі музей. 13 50 Гэта толькі сплетка. 14 00 Панарама. 14 20 "Гэта цудоўная сямейка". Серыял вытв. Францыі. 15 10 Тэлечасопіс. 15 55 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Тэлечасопіс. 17 10 Бацькаўшчына. 17 30 Дакументальны фільм. 18 20 Студыя другой праграмы. 18 45 Рэпартаж. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Кола фартуны. 20 35 Мультфільм. 21 00 "Прыпынак Аляска". Серыял вытв. ЗША. 22 00 Панарама. 22 30 Музычная праграма. 23 30 Народны густ. 00 00 Зоў аб дапамозе. 00 40 Публіцыстычная праграма. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная студыя. 01 15 Музычная праграма.

### АЎТОРАК, 15.11

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 09 30 Праграма для дзяцей. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаварым аб дзецях. 10 55 Ангельская мова для дзяцей. 11 00 Серыял вытв. ЗША. 11 45 Еўрапейскі партрэт. 11 55 Музычная праграма. 12 00 Рынак працы. 12 20 Запрашэнне к сталу. 12 30 Клуб самотных сэрцаў. 12 50 Дамашні юрыст. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнес. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 45 Дакументальны фільм. 14 15 Кухня. 14 30 Тэлекамп'ютэр. 14 50 Нашая Балтыка. 15 05 З гісторыі тэхнікі. 15 20 Камп'ютэр для кожнага. 15 45 у свеце навукі. 15 50 Праграма дня. 16 00 Музычная праграма. 16 30 Маладзёжная праграма. 17 00 "Першыя пацалункі". Серыял вытв. Францыі. 17 25 Праграма для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Арыя са смехам. 18 40 Здароўе. 19 05 Мультсерыял 19 30 Надзвычайны пераргляд. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 Мастацкі фільм. 22 50 Пульс дня. 23 15 Сеймограф 23 30 Пісьма аб гаспадарцы. 00 00 Навіны. 00 20 Дакументальны фільм. 01 10 Тэлечасопіс. 02 20 Праз мара і ільды. 02 30 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 20 Прывітанне. 08 30 Ангельская мова. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Прыгоды пана Міхала". Серыял вытв. Польшчы. 10 00 Свет жанчын. 10 30 Дакументальны серыял. 11 00 Фільм для дзяцей. 11 30 Тэлетурнір. 12 00 Дакументальны фільм. 12 45 Музычная праграма. 13 40 Мой маленькі свет. 14 00 Панарама. 14 20 "Забароннае каханне". Серыял вытв. Іспаніі. 15 05 Тэлечасопіс. 15 55 Прывітанне. 16 00 Фільм для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Дакументальны фільм. 17 30 Сум і мары. 18 00 Тэлечасопіс. 18 10 Пісьма з Еўропы. 18 30 Кракаўскія легенды. 18 40 Каталіцкая праграма. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Мультфільм. 21 00 Публіцыстычная праграма. 21 50 Тэлечасопіс. 22 00 Панарама. 22 30 Экалагічная праграма. 22 40 Рэпарцеры прадстаўляюць. 23 00 "Імям айца і сына". Фільм вытв. Італіі. 00 20 Тэлечасопіс. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная праграма. 01 15 "Нераўная пара". Фільм вытв. Германіі.

### СЕРАДА, 16.11

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата? 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Мама і я. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаварым аб дзецях. 10 55 Ангельская мова для дзяцей. 11 00 "Фартурна". Камедыя вытв. Польшчы. 12 00 Ад калыскі да школы. 12 30 Культурна-публіцыстычны журнал. 12 55 Наша грамадзтва. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнесс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Дакументальная праграма. 13 50 Граматыка. 14 05 Сучасная польская проза. 14 35 Сустрэча з літаратурай. 15 05 Гісторыя польскага радыё. 15 20 Філосаф у любы час. 15 55 Праграма на вечар. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для моладзі. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Праграма для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Спартыўная студыя. 20 20 Вечарынка. 20 40 Навіны. 21 20 "Карошы". Фільм вытв. ЗША. 22 55 Пульс дня. 23 15 Дакументальны фільм. 23 30 Дакументальны фільм. 00 00 Навіны. 00 20 "Брунэт вячэрняю парой". Камедыя вытв. Польшчы. 01 50 Дакументальны фільм.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 30 Курс ангельскай мовы. 08 40 Раніца другой праграмы. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Шэрлак Холмс і доктар Ватсан". Серыял вытв. Англіі. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Мультфільм. 16 30 Спартыўная студыя. 17 00 Жывелы вакол нас. 17 30 Тэлечасопіс. 18 00 Дакументальны фільм. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Забаўляльная праграма. 21 00 "Сымон Візенталь". Дакументальны фільм. 21 45 Цені жыцця. 22 00 Панарама. 22 30 Экспрэс рэпарцёраў. 23 05 Кінааповяд. 00 15 Сімфанічны канцэрт. 01 10 Панарама. 01 15 Спартыўная студыя. 01 25 Музычнае прадстаўленне.

### ЧАЦВЕР, 17.11

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата. 08 05 Мініяцюры. 09 00 "Дзіцячае аддзяленне". Серыял вытв. Англіі. 09 30 Для дзяцей. 09 45 Гімнастыка. 09 50 Мультфільм. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 10 25 Дашкольнікі дома. 10 50 Пагаварым аб дзецях. 10 55 Ангельская мова для дзяцей. 11 05 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША 11 55 Музычная праграма. 12 00 Кулінарная праграма. 12 20 Гэта лёгка. 12 30 Чвэрць гадзіны на экране. 12 45 Жыць бяспечна. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнесс. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 40 Сустрэча з прыродай. 14 00 Паміж намі жывёламі. 14 20 Жывёлы свету. 14 50 Рабінзоны. 15 10 Тэлечасопіс. 15 25 Першы год жыцця рабенка. 15 50 Праграма дня. 16 00 Маладзёжная музыка. 16 30 Для маладых гледачоў. 17 00 "Дзіцячае аддзяленне". Серыял вытв. Англіі. 17 25 "Дзе Валлі?". Серыял вытв. Англіі. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Кіначасопіс. 18 40 Такі свет. 19 05 "Маленькі цуд". Серыял вытв. ЗША. 19 30 Каталіцкая праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Спякота тропікаў". Серыял вытв. ЗША. 22 05 Толькі па першай праграме. 22 50 Сатырычная праграма. 23 00 Урадавы журнал. 23 10 Вайсковы журнал. 23 25 Пегас. 00 00 Гаспадарчыя навіны. 00 50 "Даносчыца". Фільм вытв. Германіі. 02 20 Трыптых.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 30 Курс ангельскай мовы. 08 40 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 "Шэрлак Холмс і доктар Ватсан". Серыял вытв. Англіі. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 "Тарзан". Серыял вытв. Германіі. 16 30 Летны часопіс. 17 00 Роля разуму. 17 30 Музычная праграма. 18 00 Рэпартаж. 18 30 Забытыя пісменнікі. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Кола фартуны. 20 35 Клуб спадара Рыся. 21 00 Спартыўная студыя. 22 00 Панарама. 22 35 Аўтачасопіс. 23 00 "Цемра гораду". Фільм вытв. ЗША. 01 00 Панарама. 01 05 Спартыўная праграма. 01 15 Арт-ноч.

### ПЯТНІЦА, 18.11

**ПРАГРАМА 1**

07 00 Кава ці гарбата. 09 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 09 30 Праграма для дзяцей. 09 55 Гімнастыка. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма для дзяцей. 10 25 Дашкольнікі дома. 11 00 "Маладыя ездакі". Фільм вытв. ЗША. 11 50 Музычная праграма. 12 00 Школа для бацькоў. 12 15 Сшый сама. 12 30 Журнал нацыянальных меншасцяў. 13 00 Навіны. 13 10 Аграбізнес. 13 15 Адукацыйнае тэлебачанне. 13 15 Сельскагаспадарчая праграма. 13 45 Якая школа? 13 50 Дакументальная праграма. 14 05 Хто ты есць? 14 20 Стан душы. 14 45 Калі не Оксфард, дык што? 14 50 Хто першы - той лепшы. 15 25 Бізнес па амерыканску. 15 55 Праграма дня. 16 00 Музычны тэлетурнір. 16 30 Танцавальны турнір. 16 55 Музычная праграма. 17 00 "Мода на поспех". Серыял вытв. ЗША. 17 25 Для дзяцей. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 20 Тэлечасопіс. 18 30 Штотыднёвік культуры. 18 40 Тэлечасопіс спажыўца. 19 05 Спаткане ўцемную. 19 50 Сатырычная праграма. 20 00 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Шчаслівы Аляксандр". Фільм вытв. Францыі. 22 45 Пульс дня. 23 00 Чвэрць гадзіны. 23 15 Справа для рэпарцёра. 00 00 Навіны. 00 15 Блізкія сустрэчы. 00 45 "Бруклін" Фільм вытв. ЗША. 02 25 Танцавальный турнір.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Спорт. 08 30 Курс ангельскаай мовы. 08 40 Раніца. 09 00 Мясцовая праграма. 09 30 Серыял вытв. Даніі. 10 00 Трансляцыя паседжанняў сейма. 14 00 Панарама. 15 55 Прывітанне. 16 00 Праграма для дзяцей. 16 30 Спартыўная студыя. 17 30 "З девяці да пяці". Камедыйны серыял вытв. ЗША. 18 00 Дакументальны фільм. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 20 00 Адзін з дзесяці. 20 35 Тэлечасопіс. 21 00 Амерыканцы ў Варшаве. 22 00 Панарама. 22 30 Забаўляльная праграма. 22 45 Мастацкі фільм. 00 40 Тэлечасопіс. 01 00 Панарама. 01 05 Спорт. 01 15 Рок-фестываль.

### СУБОТА. 19.11

**ПРАГРАМА 1**

08 00 З Польшчы. 08 10 Прашу адказаць. 08 25 Усе аб агародзе. 08 50 Агралінія. 09 30 Спартыўны тэлечасопіс. 09 55 Праграма дня. 10 00 Навіны. 10 10 Праграма каталіцкай рэдакцыі для дзяцей. 10 35 Праграма для дзяцей. 12 00 Дакументальны фільм. 12 50 Тэлечасопіс. 13 00 Навіны. 13 10 Тэлечасопіс. 13 45 Жывелы свету. 14 20 Мультфільмы У. Дыснея. 15 35 Тэлетэатр. 16 45 Дай шанц рабенку. 17 00 Тэлечасопіс мясцовых праграм. 17 25 "Сямейнае прадпрыемства". Камедыйны серыял вытв. Польшчы. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Тэлечасопіс. 18 50 Забаўляльная праграма. 19 10 "Беверлі Хілз". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Дзіцячы тэлечасопіс 20 10 Вечарынка. 20 30 Навіны. 21 10 "Хлопец з клуба Фламінга". Камедыя вытв. ЗША. 23 05 Звычайныя - надзвычайныя. 23 20 Дакументальны фільм. 23 45 "Другая". Дакументальны фільм. 00 00 Навіны. 00 10 Спартыўная субота. 01 10 "Фатальны кадр". Фільм вытв. ЗША. 02 40 "Самотнае сэрца". Фільм вытв. ЗША. 04 15 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Панарама. 08 10 Музычная раніца. 08 30 Такія самотныя. 08 50 Урок мовы глуханямых. 08 55 Прывітанне. 09 00 Таварыства ў культуры. 09 30 Мультфільм. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Польская армія. 11 30 Праграма аб жывелах. 12 00 Праграма для дзяцей. 13 00 Акадэмія польскага кіно. 14 30 Забаўляльная праграма. 15 00 Зоркі тых гадоў. 15 30 Жыцце побач з намі. 16 00 Спартыўная студыя. 16 30 Прывітанне. 16 45 Тэлечасопіс. 17 00 Серыял вытв. ЗША. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Канцерт. 18 55 Розыгрыш лато. 19 00 Панарама. 19 10 Мясцовая праграма. 19 30 Семь дзен - свет. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Тэлечасопіс. 21 00 Забаўляльная праграма. 22 00 Панарама. 22 30 Слова на нядзелю. 22 35 Музычны часопіс. 23 20 "Джэсі Джемс". Вестэрн вытв. ЗША. 01 00 Панарама. 01 05 Рок-ноч.

### НЯДЗЕЛЯ, 20.11

**ПРАГРАМА 1**

08 00 Сельская гаспадарка ў свеце. 08 15 Далека і блізка. 08 30 Тыдзень. 09 00 Сельскагаспадарчая праграма. 09 25 Праграма дня. 09 30 Нядзельная кінапраграма. 09 55 Тэлераніца. 10 20 Музычная скрыня. 10 45 Серыял вытв. Канады. 11 10 Тэлетэатр для дзяцей. 12 00 Навіны. 12 10 Дакументальны серыял. 13 05 Тэлеканцэрт пажаданняў. 13 35 С камерай сярод звяроў. 13 50 Квант. 14 10 Мора. 14 45 У старым кіно. 16 30 Сто пытанняў. 17 10 Спартыўная студыя. 17 35 Антэна. 18 00 Тэлеэкспрэс. 18 25 Варта пасмяяцца. 19 00 "Дынастыя Колбі.". Серыял вытв. ЗША. 20 00 Вечарынка 20 30 Навіны. 21 10 "Па зову сэрца". Серыял вытв. Італіі. 22 05 Спартыўнаая нядзеля. 22 30 Серыял вытв. ЗША. 22 50 Публіцыстычная праграма. 23 20 Вечар з Аліцыяй. 00 20 "Гарольд і Маудзі". Фільм вытв. ЗША. 01 50 Музычная праграма.

**ПРАГРАМА 2**

08 00 Рэха тыдня. 08 30 Фільм для глухіх. 09 15 Слова на нядзелю. 09 20 Прывітанне. 09 30 Тэлечасопіс. 10 00 Мясцовая праграма. 11 00 Дакументальны фільм. 12 00 Мультфільмы для дзяцей. 13 00 "Лукі Лук". Серыял вытв. Італіі. 13 50 Духі, замкі, упыры. 14 25 Каляровыя песні. 15 00 Падарожжа ў часе і прасторы. 15 55 Тэлечасопіс. 16 00 Тэлетэатр для дзяцей.. 16 35 Публіцыстычная праграма. 16 50 Другая праграма. 17 00 "Як есць". Серыял вытв. Польшчы. 17 30 Тэлетурнір. 18 00 Тэлечасопіс. 19 00 Падзеі тыдня. 19 25 Спартыўная студыя. 19 50 Мясцовая праграма. 20 00 Тэлетурнір. 20 35 Мультфільм. 21 00 Спецыяльная лінія. 22 00 Панарама. 22 30 Кабарэ. 23 25 "У цені дзікіх пальм". Серыял вытв. ЗША. 00 10 Тэлетэатр. 01 20 Панарама 01 30 Спартыўная студыя.

